# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК





№ 40 (605) ГОД XII 1 КАСТРЫЧНІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.

## МАНТАЖ В. ШВЕДА

**Ваяводскі Дом культуры выдасць мантаж паэзіі да 50 гадавіны Кастрычніка «Паўвека слаўнай перамогі». Мантаж апрацаваў Віктар Швед і зрабіў гэта ўдала і даступна на базе беларускай паэзіі. Мантаж можа служыць дасканала замест нуднага «акалічнасцёвага» даклада на кастрычніцкіх вечарынах. Усім гурткам, святліцам раім моцна зацікавіцца мантажом. Атрымаць яго можна ў дамах культуры, у аддзелах БГКТ. (вл)**

## САЛДАТЫ КАСТРЫЧНІКА

## КАНДЫДАТ У ГУБЕРНАТАРЫ

Фелікс Галавач — сялянскі сын з вёскі Забор'е пад Ашмянамі. У IV томе вялікай польскай энцыклапедыі можна знайсці пра яго вось такую даведку: «...Дзеяч народнага руху. Прымаў удзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі, знаходзячыся тады ў Петраградзе; вярнуўшыся на радзіму, уступіў у Польскае стронніцтва людовае «Вызваленне» і ад яго імя быў паслом у Сейм 1922—27 гадоў; не згаджаючыся з палітыкай улад стронніцтва, вышаў з яго ў лістападзе 1924 года, затым быў адным з заснавальнікаў Незалежнай сялянскай партыі; арыштаваны ў студзені 1927 года разам з чатырма пасламі Беларускай «Грамады»; пасля асвабаджэння з турмы дзейнічаў у Аб'яднанні сялянскай лявіцы «Самапомач»...»

Ад сябе можам папоўніць гэтую даведку тым, што яго бацькі жылі па-суседску з Дзяржынскімі, а Фелікс Эдмундавіч — гэты выдатны рэвалюцыянер і савецкі дзяржаўны дзеяч — быў яго хросным.

Восенню 1916 года Фелікс Галавач трапіў у Маскву на курсы для вясковых будаўнікоў.

— Усюды, дзе толькі штосьці адбывалася, — успамінае сябра Галавач, — поўна было нашых курсантаў. Мы хадзілі на мітынгі, прымалі ўдзел у дэманстрацыях, разносілі лістоўкі.

І раптам дзень 7 сакавіка 1917 года! Памятаю, што неяк апынуўся я сярод шматлюднага натоўпу, людзі неслі лозунгі: **«Далоў цара!»** Спявалі рэвалюцыйныя песні. Пад іх рытм мы накіраваліся на Бутыркі, дзе знаходзілася турма. Разбілі вароты, выпусцілі вязняў. Іншым разам на трэці ці чацверты дзень, памятаю, што разбройвалі царскіх паліцаяў. Папаў я неяк на Тверскі праспект. Гляджу: роўным строем ідуць салдаты. «Ну, — думаю, — тут то зараз пачнецца!» Наперадзе палкоўнік, а зараз за палкоўнікам нейкі другі афіцэр — менш важны чынам, але вышэйшы ростам на цэлую галаву.

— Вядзі! — крычыць гэты высокі афіцэр і пісталетам штурхае палкоўніка ў патыліцу. Калона салдат накіравалася ў Крэмль да сядзібы гарадской управы.

Гэтыя дні... мільгацяць у памяці, як адломкі маланак.

У нейкай газеце прачытаў я тады заяву, што **ў горадзе Туле рыхтуецца з'езд беларусаў.** Галоўныя яго арганізатары — **Бурбіс і Дыла.** Я паехаў. Сабралося каля 200 чалавек — прад-

(Працяг на стар. 4)



ФЕЛІКС ГАЛАВАЧ



Мацейкава Гара над Нарвай у Беластоцкім павеце

Фота: Аляксей Казберук

З ПАМЯТНАЙ КНІГІ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ

## ШТО ГАВОРАЦЬ ЛЮДЗІ?

Цёплым летнім днём зайшла я ў Беларускі музей у Белавежы са сваёй трэцякласніцай-дачкой. Засела за «залатой» памятнай кнігай, дзе ўжоназбіралася нямала запісаў. Цікавіла мяне, што кажуць аб музеі людзі. Трэцякласніца мая бегала вачыма і нагамі ад экспаната да экспаната. Распытвала і здзіўлялася. Рэчы выдаваліся тут родам з казак, якія чытае. Так калісь працавалі людзі, так калісь жылі. Не так надта і калісь. Але для сучаснага чалавека, асабліва гарадскога, выдаюцца гэтыя сохі, жорны і драўляныя міскі далёкай мінуўшчынай.

Памятная кніга пацвярджае найважнейшае заданне Белавежскага музея: расказваць гісторыю жыцця і працы беларускіх людзей спрадвеку жыўшых на паўднёва-ўсходняй Беласточчыне.

Выпісы з кнігі (некаторыя).

**104 студэнты біялогіі Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне** лічаць, што экспанаты музея дасканала дапаўняюць экскурсію ў Белавежу. «Яны даюць мажлівасць лепш пазнаць спецыфіку раёна».

**30 удзельнікаў настаўніцкай экскурсіі з Кракаўскага**. Пішуць: Прыгожыя экспанаты народнай культуры!»

**Экскурсія з 85 чалавек з Высокамазавецка:** «Дзякуючы цікаваму расказу правадніка, яго сардэчным адносінам да наведвальнікаў, пабыўка ў музеі дала нам многа карысных ведаў».

**Пачатковая школа № 28 з Беластока:** «Многа мы скарысталі з апавядання мілага пана правадніка. Просім прабачэння за размову некаторых малышоў».

**Маладзёжная секцыя ВЗГС у Беластоку:** «Экспанаты, якія мы бачылі, даказваюць, якое велізарнае значэнне ў жыцці людзей мае тэхнічны прагрэс».

**Экскурсія Педагагічнага ліцэя з Мрангова:** «Музей дазволіў нам лепш пазнаць мінулае Белавежскай зямлі. Музей, хоць створаны грамадскімі сіламі, цяпер поўнасцю заслугоўвае на зацвярджэнне яго Міністэрствам культуры».

**Экскурсія з Варшавы:** «Вучні і настаўнікі выйшлі захопленыя ўмеласцю выканання прадметаў калісьнімі людзьмі».

**У мностве пахвальных подпісаў пачатковай школы № 5 з Паўлаў** бачу дапісак: «Музей цікавы, бо праваднічка прыгожая і зграбная». Багунё Расяк з VII б.

**Велізарная экскурсія з II-га Агульнаадукацыйнага ліцэя з Грудзёндза** шкадуе, што занадта цеснае памяшканне мае музей.

**А вось экскурсія таксама з Варшавы:** «28.VI.1967 года мы наведалі музей і захапляліся сабранымі тут экспанатамі. Трэба з усёй шчырасцю прызнаць, што экспанаты гэтыя ўнікальныя і непаўторныя, сведчаць аб велізарнай умеласці і працавітасці людзей, якія тут жылі. Экспазіцыя аднак і кансервацыя прадметаў сведчыць аб слабым зацікаўленні музеем мецэнасаў культуры як з павятовай, так і ваяводскай рад нарадовых».

**Экскурсія з Гданьска:** «Веды, вынесеныя адгэтуль, надоўга застануцца ў нашай памяці».

**Лагер 22 дзяўчат з Варшавы:** «Жывем у Варшаве і не кожная дагэтуль бачыла такія экспанаты».

Многа і часта ў кнізе хваляць правадніка, асабліва робяць гэта дзяўчаты. **Вось яны з Беластока:** «Цікавыя экспанаты, а пры іх цікавая інфармацыя мілага-прамілага пана правадніка, які з'яўляецца душой музея».

А наведвальнікі з Рагозна-Велькапольскага вельмі слушна пакідаюць у кнізе сваю ўвагу: «Прапануем прадаваць турыстам памяткі».

Матэрыял апрацавала
**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### НАШ МІКРАКАМЕНТАРЫЙ

Адкрылася чарговая звычайная Сесія Генеральнай Асамблеі ААН. Парадак дня XXII Сесіі прадбачвае разгледжанне 96 спраў. Упершыню старшынёй Сесіі быў выбраны прадстаўнік сацыялістычнага лагера, міністр замежных спраў Румыніі.

Першыя галасы ў дыскусіі паказалі, што дыскутанты займаюцца найбольш істотнымі справамі сучаснасці: в'етнамскай вайной, развязкай блізкаўсходняга крызісу і разбраеннем. Штопраўда, справа В'етнама афіцыяльна не стаіць на парадку дня, але прадбачваецца, што аб ёй будуць выказвацца многія дыскутанты. У справе сітуацыі на Блізкім Усходзе думкі падзелены. **Большасць** членаў ААН выказваецца, што асноўным у развязцы блізкаўсходняга крызісу ёсць вывядзенне ізраільскіх войск з акупіраваных арабскіх тэрыторый. **Меншасць** — таксама выказваецца за вывядзеннем ізраільскіх войск, ставячы адначасова пэўныя ўмовы арабскім краінам. **Сам Ізраіль** зусім адказваецца ад вывядзення сваіх войск ігнаруючы пастановы ААН (у справе Ерусаліма). Неабходна дадаць, што **справа Блізкага Усходу стаіць на парадку** дня XXII Сесіі ААН.

**Чаму справа В'етнама фармальна не стаіць на парадку дня,** хаця многія з дыскутантаў яе не мінаюць? Рэч у тым, што праўнай падставай, паводле якой мела быць развязана справа Індакітая, была жэнеўская канферэнцыя з 1954 года. Прыймалі ў ёй удзел краіны зацікаўленыя непасрэдна або пасрэдна. Зараз не ўсе з гэтых жа краін з'яўляюцца членамі ААН (В'етнам і Кітай). Тым не менш в'етнамская праблема будзе прабівацца ў дыскусіі, таму яна мае непасрэдны ўплыў на мір у свеце, на амерыкана-савецкія адносіны і іншыя.

### У СССР

Налічваецца тут **767 вышэйшых навучальных устаноў. Вучыцца** ў іх на стацыянарных, вячэрніх і завочных аддзяленнях **4 мільёны 123 тысячы студэнтаў.** У СССР ёсць каля **4 тысяч тэхнікумаў** (сярэдніх прафесіянальных школ).

### ВАЙНА СТВАРЫЛА МЕСЦА ПРАЦЫ

Міністэрства працы ЗША паінфармавала, што вайна ў В'етнаме адкрыла ў Амерыцы «3 мільёны новых месцаў прац». 18% інжынераў у ЗША працуе на патрэбы арміі. 22% тэхнікаў электрыкаў і электронікаў звязана з ваеннай прадукцыяй. Кангрэс зацвердзіў ваенны бюджэт на суму каля 70 мільярдаў долараў г.зн. на 20 мільярдаў больш, чым было за прэзідэнта Кенедзі.

### З ВАТЫКАНУ

У Ватыкане паінфармавана, што ад 14.09.1967 г. забараняецца ўваходзіць у базіліку святога Пятра жанчынам апранутым у міні-спаднічкі.

А.К.

## БССР

### НАРАДА

У Мінску, у клубе імя Ф. Дзяржынскага, 15 верасня адбылася рэспубліканская нарада па пытаннях далейшага развіцця фізкультуры і спорту ў Беларусі. Нараду гэту склікаў Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі.

З уступным словам выступіў першы сакратар ЦК КП Беларусі П. Машэраў. Даклад меў С. Пілатовіч, сакратар ЦК КПБ.

— **Партыйныя і савецкія арганізацыі нашай рэспублікі распрацавалі вялікую праграму па рэалізацыі ўказанняў партыі ў гэтай справе,** — сказаў С. Пілатовіч.

### СЕМСОТГОДДЗЕ

Магілёву споўнілася семсот гадоў. У сувязі з так знамянальнай датай адбылася ўрачыстая юбілейная сесія гарадскога Савета дэпутатаў працоўных сумесна з партыйнымі, грамадскімі арганізацыямі і прадстаўнікамі Савецкай Арміі. Прысутны на сесіі віцэпрэм'ер беларускага ўрада У. Лабанок зачытаў прывітанні ад ЦК КП Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і беларускага ўрада. Прывітальную тэлеграму сваім землякам прыслаў Маршал Савецкага Саюза І. Якубоўскі, які з'яўляецца першым намеснікам міністра абароны Саюза ССР.

З дакладам **«Магілёву — 700 год»** выступіў першы сакратар гарадскога камітэта партыі Г. Бадуноў.

У Магілёве існуе зараз 40 сярэдніх школ, 7 тэхнікумаў, 2 інстытуты, 2 тэатры, 4 кінотэатры. Магілёўская вобласць узнагароджана ордэнам Леніна.

### ПАМЯЦЬ

Віцябляне ўшанавалі памяць легендарнага камандзіра Першай беларускай партызанскай брыгады Героя Савецкага Саюза Міная Шмырава. Яго імем названы вуліцы горада, школа. У Віцебску хутка будзе адкрыты музей Міная Шмырава, легендарнага «бацькі Міная». Музей будзе складацца з чатырох аддзелаў, у якіх раскажацца аб дзяцінстве героя, яго ўдзеле ў баях супраць інтэрвентаў, у партызанскім руху на Віцебшчыне ў гады апошняй вайны, а таксама аб пасляваеннай дзейнасці Шмырава.

### ТРАСЫ

У мінулым годзе беларуская паветраная пасажырская камунікацыя перавезла 850 тысяч асоб. Сёлета лік пасажыраў павялічваецца ўжо да мільёна. Гэта абазначае, што паслугамі пасажырскай камунікацыі карыстаецца кожны восьмы жыхар Беларусі.

У сучасны момант Мінск мае непасрэдную паветраную камунікацыю з вялікімі прамысловымі і культурнымі цэнтрамі Саюза ССР, курортамі Поўдня і Каўказа. На гэтых трасах курсуюць вялікія турбавінтавыя і рэактыўныя пасажырскія самалёты «АН—10», «ТУ—124», «ИЛ—18». Унутрыбеларускімі паветранымі лініямі павязаны 60 гарадоў рэспублікі, па якіх лётаюць таксама і газатурбінавыя «АН—24». (с.я.)

## ПОЛЬШЧА

### СУПРАЦОЎНІЦТВЫ

Звыш 140 навуковых адзінак Польшчы рэалізуе 5-гадовы навукова-тэхнічны дагавор паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Дагавор гэты з'яўляецца найпаўнейшым навукова-тэхнічным дагаворам Польшчы з зарубежнаю краінаю. Ахоплівае ён 1700 тэмаў навукова - даследчых прац. Устаноўлена, што 362 тэмы будуць апрацаваны супольна польскімі і савецкімі спецыялістамі, 759 тэмаў, якія цікавяць Польшчу, апрацуюць спецыялісты СССР, а 615 тэмаў зрэалізуе Польшча для СССР. Усе тэмы маюць вялікае значэнне для гаспадарчага развіцця абедзвюх краін.

### СЭРЦА

У Лодзі адбыўся міжнародны з'езд прысвечаны аперацыі сэрца. У з'ездзе прынялі ўдзел спецыялісты ад аперацыі сэрца з Польшчы, а таксама сусветнай славы хірургі з Чэхаславакіі, Злучаных Штатаў, Швецыі і іншых краін.

### З'ЕЗД

У Шчэціне адбыўся юбілейны 10 з'езд пісьменнікаў паўночных і заходніх зямель. У з'ездзе прыняў удзел сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі — Зэнан Клішка і кіраўнік Аддзела культуры ЦК — Вінцэнты Краська. Зэнан Клішка выступіў на з'ездзе з прамоваю, у якой указаў на рэваншысцкую палітыку заходненямецкага мілітарызму і яго павязанні з амерыканскім імперыялізмам, якія асабліва відавочны апошнім часам у святле складанай міжнароднай абстаноўкі. Зэнан Клішка падкрэсліў значэнне адзінства ўсяго народа ў святле стаяўшых перад намі заданняў. «Ніколі яшчэ ў мінулым, — заявіў ён, — народ наш не быў так аднадумны ва ўсіх істотных справах айчыны, як аднадумны ён сёння. І таму ніколі ў мінулым не мог зрабіць для яе так многа і ў так кароткім часе».

### АЛЕНЬ

10-гадовы алень «Бартэк» перабраўся з заалагічнага сада ў Дуброве Гурнічай у суседні парк і заатакаваў працуючых там рабочых. Адзін з рабочых загінуў на месцы разарваны рагамі звера, а 4 іншыя асобы былі моцна паранены і знаходзяцца ў бальніцы. Працаўнікі міліцыі прабавалі стрэламі ў паветра адагнаць аленя, у сувязі з тым, аднак, што не давала гэта вынікаў — застрэлілі звера.

### ГУТА ІМЯ БЕРУТА

Эканамічны камітэт Рады Міністраў зацвердзіў уступныя дадзеныя адносна праекту пабудовы вялікага пракатнага цэху тоўстай бляхі ў гуце імя Берута ў Чэнстахове. Будова гэта запачаткуе новы этап у гісторыі чэнстахоўскай гуты, якая вырасце ў магутны камбінат «чорнай металургіі». Пракатны цэх, будова якога пачнецца ў наступным годзе, даваць будзе 600 тысяч тон тоўстай бляхі ў год. Бляха гэтая выкарыстоўвацца будзе да будовы караблёў, вагонаў і ў хімічнай прамысловасці. Асноўнае тэхналагічнае абсталяванне новага прадпрыемства закуплена будзе ў СССР. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ГАЙНАЎСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

У суботу 23 верасня ў Гайнаўцы сустрэліся культурна-асветныя дзеячы ўсяго ваяводства. Урачыстае пасяджэнне адбылося ў доме культуры «Гурнік», які зараз з'яўляецца **павятовым домам культуры.** З праграмай асветна-культурнай дзейнасці ў 1967—1968 гадах пазнаёміў прысутных кіраўнік аддзела культуры ВРН у Беластоку Язэп Кая. Культурна-асветныя дзеячы Беласточчыны пабывалі ў Нараўцы і ў Белавежы. У Белавежы ўдзельнічалі яны ў адкрыцці мастацкай выстаўкі, якая адлюстроўвае вынікі жывапіснага пленера. Пленер гэты пачаўся 3 верасня, прынялі ў ім удзел 24 мастакі, якія даставілі на выстаўку 130 сваіх прац.

З нагоды адкрыцця новага культурна-асветнага года ваяводскаму дому культуры прысвечана адзнаку Тысячагоддзя, а некаторыя культурна-асветныя дзеячы атрымалі грашовыя ўзнагароды.

### НАЙЛЕПШЫЯ ТРАКТАРЫСТЫ

У ПГР Ваяводзін, Граеўскага павета, быў наладжаны конкурс для трактарыстаў. Найлепш араў трактарыст Ян Найда з сельскагаспадарчага гуртка ў вёсцы Дабжыялова, Ломжынскага павета. Наступныя месцы занялі: Казімір Зуховіч, трактарыст з ПГР Ваяводзін, і Казімір Нямыйскі, трактарыст з сельгасгуртка Кастры-Літва, Высокамазавецкага павета. Адначасова праходзіў конкурс па тэхнічнай спраўнасці. Тут найлепшым аказаўся Казімір Зуховіч.

Конкурсную камісію ўзначальваў намеснік кіраўніка аддзела сельскай гаспадаркі ВРН інжынер Т. Нятупскі.

### 15-ГОДДЗЕ БЕЛАСТОЦКАГА РАДЫЁ

**27 верасня 1952 года ў эфіры адазвалася Беластоцкая радыёвяшчальная станцыя Польскага Радыё. Зараз яе перадач слухае 165 тысяч уласнікаў радыёпрыёмнікаў у Беластоцкім ваяводстве. Ад нядаўна Беластоцкая радыёвяшчальная станцыя перадае свае перадачы на ўльтракароткіх хвалях, што дазваляе ахапіць праграмай тэрыторыю ўсяго ваяводства.**

**Восем рэдакцыйных аддзелаў беластоцкага радыё змяшчаецца зараз у цесным будынку, але ў 1971 годзе перабяруцца яны ў новы ўласны гмах. Беластоцкія перадачы слухаюць нават за мяжой, аб чым сведчаць лісты, якія наплывалі ў рэдакцыю з 32 краін. Нават капітан карабля «Баторы» прыслаў з далёкіх мароў падзяку за тое, што, дзякуючы беластоцкім перадачам, мог арыентавацца, што дзеецца ў краіне.**

**Ад 1958 года беластоцкае радыё перадае штотыдзень перадачы на беларускай мове. Можна іх слухаць кожны панядзелак у 7.10 раніцы.**

**З нагоды 15-цагоддзя жадаем калектыву Беластоцкай радыёвяшчальнай станцыі яшчэ лепшых поспехаў у працы.**




**Niedziela, 1.X.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy. 9.40 „Przypominamy, radzimy". 9.50 „Minerzy podniebnych dróg" — film tv radz. cz. II. 11.00 „W starym kinie". 12.00 Wiadomości dziennika. 12.10 „Po „Warszawskiej Jesieni" — montaż filmowy. 12.55 Sprawozdanie sportowe. 13.45 „Przemiany" — program dla wsi. 14.15 „Ojciec Wilbura" — film („Koń, który mówi"). 14.45 Dla dzieci: H. Januszewska: „Kot w butach" — Teatr Lalek. 15.35 „Piórkiem i węglem". 15.55 „Plebiscyt Archimedesa". 17.55 „Ludzie i zdarzenia". 18.30 PKF. 18.40 „Śpiewające pocztówki". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Prawo i pięść" — film fab. pol. 21.40 „Niedziela sportowa".

**Poniedziałek, 2.X.**

15.40 Program dnia. 15.45 Politechnika TV. 16.25 Politechnika TV. Chemia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.20 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.35 „Sydney" — film bułg. 17.45 „Azymut" — młodzieżowy magazyn wojskowy.. 18.10 „Eureka". 18.40 „Spacerkiem po kinach". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 Teatr TV: „Wyzwanie bogom". ok. 21.15 „Laos strefa wyzwolona" — film. 21.35 „Ich pierwsza miłość" — program Redakcji Młodzieżowej. 22.05 Dziennik TV. 22.20 Program na jutro. 22.25 Politechnika TV. Geometria. 22.55 Politechnika TV. Chemia.

**Wtorek, 3.X.**

9.10 „Testament" — film NRD. 10.55 Dla szkół (kl. X) Język polski. 11.25 Przerwa. 12.00 Dla szkół (kl. II) „Kolory jesieni". 12.15 Przerwa. 12.30 „Przysposobienie Rolnicze". 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Przysposobienie Rolnicze". 15.45 Politechnika TV. Matematyka. 16.25 Politechnika TV. Matematyka. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy". 17.25 Dla młodych widzów: „Wiem jak fotografować latem". 17.45 „Telekram". 17.55 „Giełda piosenki". 18.35 „Po szóstej" — Młodzieżowy Klub TV. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 TV Kurier Warszawski. 20.20 „Żołnierze Rewolucji" — polscy uczestnicy Rewolucji Październikowej. 20.50 „Testament" — film („Dr. Schlüter") cz. III. 22.35 Dziennik TV. 22.50 Program na jutro. 22.55 Politechnika TV. Matematyka. 23.25 Politechnika TV. Matematyka.

**Środa, 4.X.**

10.00 Film fab. 11.30 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 Politechnika TV. Matematyka. 16.25 Politechnika TV. Matematyka. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film. 17.10 „Nie tylko dla pań". 17.30 PKF. 17.40 „Gawędy muzyczne. 18.10 „10-lecie Ośrodka Kultury i Informacji NRD" — rep. film. 18.40 Wszechnica TV. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Koncert Laureatów ogólnopolskich konkursów piosenki radzieckiej. 20.55 „Światowid". 21.25 Studio Współczesne. 22.55 Dziennik TV. 23.10 Program na jutro. 23.15 Politechnika TV. Matematyka. 23.45 Politechnika TV. Matematyka.

**Czwartek, 5.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. XI): Język polski. 12.25 Przerwa. 15.40 Progr. dnia. 15.45 Politechnika TV. Fizyka. 16.20 Politechnika TV. Fizyka. 16.50 Wiadomości dziennika. 16.55 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem" w programie „Kto mieszka w lesie" oraz „Niewiarygodne przygody Marka Piegusa" — film. 17.55 „Na morskich szlakach". 18.20 „W kręgu konkursów im. Henryka Wieniawskiego". 18.50 Program ekonomiczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Pani z tobołkami" — film CSRS. 20.15 Mistrzostwa Europy w koszykówce. Mecz Polska — Jugosławia (II połowa). 21.00 „Scena śmierci" — film. 21.50 Magazyn Medyczny. 22.20 Dziennik TV. 22.35 Program na jutro. 22.40 Politechnika TV. Fizyka. 23.10 Politechnika TV. Fizyka.

**Piątek, 6.X.**

9.20 „Opowieść sentymentalna". — film fab. rum. 10.55 Dla szkół (kl. VII): Historia. 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 Politechnika TV. Matematyka. 16.25 Politechnika TV. Matematyka. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 „Kiedy trzeba podjąć decyzję". 17.40 „Polowanie na słonia" — film. 18.05 Wszechnica TV. 18.35 „Śpiewa Katarzyna Bovery". 18.50 „Śladem Cesarza" — rep. film. 19.05 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Mój świat" — rep. film. 20.35 „Tatarak" — film tv pol. wg opowiadania J. Iwaszkiewicza. 21.10 „Bez apelacji" cz. I. 21.55 Vademecum „Iskier". 22.10 Dziennik TV. 22.25 Program na jutro. 22.30 Politechnika TV. Matematyka. 23.00 Politechnika TV. Matematyka.

**Sobota, 7.X.**

9.00 „Normandia — Niemen" — film radz.-franc. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia. 11.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy. 16.10 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.20 Program tygodnia. 16.35 „Spotkanie z przyrodą". 17.00 Wiadomości dziennika. 17.05 „Aku-Aku" — film dokument. szwedzki. 18.30 Przemówienie Ambasadora NRD w Polsce. 18.40 „Warszawa, ja i Ty". 19.05 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „Pegaz" — mag. kult. 20.55 „Na trasie Łódź — Warszawa" — program satyryczny. 21.25 Dziennik TV. 21.40 Wiadomości sportowe. 21.50 „Wózek dziecięcy" — film fab. szwedzki.




**29 września (piątek)**

14.20 Program. 14.25 Wydarzenia dnia. 14.30 Język angielski dla dzieci. 14.50 „Pionieria". 15.30 Multyplikacyjny film dla dzieci. 16.00 Nowości. 17.00 Dni RSFSR w Moskwie. Koncert. Podczas przerwy nowości TV. 20.00 Pięćdziesiąt heroicznych lat. 20.30 — Międzynarodowy festiwal mody w Moskwie.

**30 września (sobota)**

Dla studentów. 5.00 Technologia metalu. 5.30 Fizyka. 6.00 Wyższa matematyka. 7.00 Mechanika teoretyczna. 8.00 Gimnastyka dla wszystkich. 8.30 Detale maszyn. 9.00 Język angielski dla dzieci. 9.20 Szkolna filmoteka „Zmartwychwstanie". 12.55 Program. 13.00 Rewolucyjny marsz nauki. Mówi uczony M. D. Milionszczykowa. 13.20 Nowości TV. 13.40 Na muzycznej fali. 15.50 Ideowość — nasza broń. Mówi sekretarz Mińskiego Parkomu KPB W. J. Leżapiekowa. 14.10 Turniej ciekawych. 15.00 Klub kinopodróżników. 16.00 „Kronika półwiecza". Film — Rok 1942. 17.00 Dni RSFSR w Moskwie. 18.30 Nowości TV. 19.00 Program międzynarodowy. Świat we wrześniu. 19.30 Spektakt „Dzień dobry nasze taty".

**1 października (niedziela)**

7.55 Program. 8.00 Budzik. 8.30 Program dla dzieci. 9.05 W świecie malarstwa. „Skarby wschodu". 9.35 Dla dzieci „Zoroczka". 10.00 Muzyczna szkatułka. 10.20 Festiwal laureatów „Wieczór trio". 11.00 Dla wojska i marynarzy. 11.35 Interwiu z zastępcą ministra oświaty BSRR. 12.00 Poezja. 12.15 Dzień nauczyciela. 12.25 Muzyczny majak. 12.40 Twórczość młodych. 13.00 Dzień RSFSR w Moskwie. 13.30 Muzyczny kiosk. 14.00 W efirze „Młodość". 15.00 „Estrada-67". 16.00 Kronika półwiecza. Rok 1943. 17.00 Mecz ZSRR — Szwajcaria. Podczas przerwy nowości. TV. 18.45 Nowości TV. 19.00 Lenin w Polsce. Film. 20.35 „Kamieniorezy". 20.55 Koncert estrad.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 106


## Нудзьга па бацькаўшчыне

Бягу на Аю-даг, гляджу на чорны воды —
Стыхія рвецца з ланцугоў Нептуна,
На скалы хвалі лезуць чуючы свабоду
І скалы ў мора груддзю, просячы ратунку.

І птушкі чарнаморскія з пароды гордых
Носяцца ў клювах з сонца ладункам,
У змове з ветрам, наперакор кірункам
Праменнямі падаюць ў адлюдныя фіёрды...

А я стаю — чужы — у гэтым краі,
Здалёк ад бацькаўшчыны і сумую.
А ноч як пацалунак на зямлю лягае.

І покуль мора сонца не задуе,
І покуль свет не знойдзе антыпода —
На гарызонт біноклі дальнабойныя наводжу.



## Прымі ўдзел

Цікаўны фільм. Сюжэт жыццёвы. Героі, колер, тэмп — усё як мае быць. Мяняюцца карціны. Нягледзячы на тое, што кожны бачыць іх на іншай шырыні экрана — усе брава б'юць. Глядач крычаць гатовы: «Вось так! Вось так яно! Вось гэтак трэба жыць!»

Фільм круціцца далей. Мяняюцца героі. Дый гледачоў ужо другія пакаленні. Фільм захапляе іх, хоць ведаюць — не бачыць ім канца. Калі ж кране ён іх нарэшце за сумленне? Пераканае, што замала брава біць. Калі ж у рытм падзей ён уцягне гледача?

ЮРКА ГЕНІЮШ







Такой хвіліне сэрца аддаю,
Што вечна будзе свежай на паперы,
А словы, бы на камені разьбу,
Ні бура, ні агонь не пераменіць.

Сваім павабам, шчырасцю сваёй
І радасцю, і горкімі слязамі, —
Будзеш хвіліна простай і жывой,
Ператрываеш цэлымі вякамі.

УЛАДЗІМІР ГАЙДУК

## ГУРЗУФ



Гурзуф. Са шчырым жэстам мора,
з гарою ўспамінаючай вякі,
з слядамі Пушкіна. Ад гора
з абрыву скальнага у горад,
дзе бочкі квасу, шашлыкі,
і дзе аскома вінаграда,
як першы верш, як маладосць,
лягла нелегальна ў радасць
і прымушала нервы падаць
перад самым сабою ў злосці...

Гурзуф не спіць — ён няньчыць дзеці,
што папрыходзілі ў яго нутро,
цяплом паўднёвым і паўднёвым кветцем,
вядзе на стык з дзяцінствам недзе,
кладзе на стол пірог,
а потым мора доўга байкі бае.
Спаць, калі усе не спяць?
А месяц ў водах дол капае
І скарбы Нептуна хавае...
І як не спаць, калі ўсе спяць.

## Рукі сяброў

**Сэрца**
**перастань хваляваццa**
**Бо агнём загарыцца кроў**
**Вышлі людзі**
**супольна змагацца**
**Есць магутныя рукі сяброў**
**Глянь**
**зямлю ўпрыгожвае праца**
**Разрастаецца ўсюды**
**дабро**
**Ручайкамі крыніцы**
**струяцца**
**Расплываюцца**
**ў золаце днёў**
**Маю зямлю ўзбагачвае праца**
**О магутныя**
**рукі сяброў**
**Як прыемна**
**выходзіць на шпацыр**
**Колькі новых**
**вясёлых дамоў**
**Сэрца**
**перастань хваляваццa**
**Бо агнём успалымнее**
**кроў**

**В. АСІПОВІЧ**

## Мая вёска

Вёска мне родная, вёска прыгожая
З лесам маўклівым і рэчкай крутой.
Хаты вясёлыя за агарожамі,
Найдаражэйшы куточак ты мой.

Цябе не забыць мне ніколі у свеце
Усюды, дзе ні прышлося б мне быць,
Як матку кахаюць каханыя дзеці
Заўсёды цябе буду так я любіць.

Тут родныя хаты ў снежным адзенні,
Вясковыя шаты дрэў і кустоў,
Цябе ўспамінаю дзянёчкам асеннім
Родная вёска, хата бацькоў.

Л. О.



## СТАРАСЦЬ

добры дзень сястра мая бяроза
прывітанне вам браты дубы
я вяртаюся з вялікае дарогі
і хачу прылегчы недзе тут пры вас

стаў губляць ужо сляды я
і пятляю па дарозе ў белы дзень —
сцежкі не бачаць вочы сляпыя
людзей не чую, глухі як пень

сюды рука прывяла ваша — кій
добразычлівы мой праваднік
вядзіце мяне у гушчар
перад сыходам абмыйце дажджом

разбярыце мяне да касцей
укіньце ў вочы зелле
не склікайце ніякіх гасцей —
хай па мне растанцуецца зелень





## ПАРТЫТУРА

З грацыі кветак музыкай б'е.
Восень на нотах развешана,
бліщчыць высока лета бабіна —
шчасце ўстрывожана ўсмешкаю.

Восень топіць увесь агарод —
у водыры плюхацца будуць
дыні — у бульбе вярблюды —
і парэчкі з чорных парод.

Пад грушамі зноў грушапад,
як быццам заплакалі грушы,
што нельга ім ў полі пагушкаць —
на ключ жураўлёў закрыты сад.

І плот як раяля хрыбет,
ноты сохнуць развешаны
па ўсяму ўзбярэжжу
сада, і з кветак музыкай б'е.

І. ЧЫКВІН

## АПАСІЯНАТА

Галаву ахінаюць думкі. Прыплываюць усё новыя. Думкі — вобразы, матывы.

Яны з красак золку, барвовай восені, з просіні неба.

Яны — колеры нівы, сонечнага разводдзя.

Яны — шчаслівы голас жняі і штосьз пацалунку. Не кожны іх здолее прасочыць у пратокі святла, у істужкі ветру.

Ім патрэбен сэнс і мелодыя, звон сталі і шэпт маладога лісця.

Не адна патухне ўдалечыні начная навальніца, не адзін мільгне дзень, месяц.

Словы патрабуюць гарту, каб краналі, як лемеш.

Імі трэ пераліць і пах набракшай раллі, і язьміну, і зелені. Аддаць пах начлежніцкага кастра і ранняга прыску, вугалляў.

Словы — пахі, словы — колеры, словы — гоман.

Кружыцца галава, ап'янелая ад язьміну, і летняга гоману, і царкоўнага звону.

Усё быццам у нейкім дзівосным сне.

Плыве мелодыя ціхая і раздражаючая. Прасочваецца аднекуль са столі, з-за палапін, бэлек.

Адплываюць і стол, і чарніліца, і спісаная папера.

Чалавек плыве ўвесь душою.

Грыміць танга Мілёнга,

Апасіяната, апасіяната.

Я. ЦЯЛУШЭЦКІ








## РАЗВІЦЦЁ ФЕАДАЛІЗМУ Ў БЕЛАРУСІ

Адзінства Кіеўскай Русі пратрывала нядоўга. Разам з умацаваннем феадалізму пашыралася ўласнасць феадалаў на зямлю, крапчэла іх улада на мясцах. Мясцовыя князі імкнуліся вызваліцца з-пад залежнасці ад кіеўскага князя. Кіеўская Русь стала драбіцца на паасобныя ўдзельныя княствы. Яны пачалі весці міжусобныя спрэчкі і войны за багацейшыя гарады і лепшыя землі.

На беларускіх землях Полацкае княства выйшла першым з-пад залежнасці ад Кіева. Як сведчыць летапіс, полацкі князь Брачыслаў «усе дні жыцця свайго» змагаўся супраць кіеўскага князя за незалежнасць свайго княства. Полаччына значна пашырыла свае ўладанні за кошт далучэння суседніх зямель. Да яе належала ўсё ніжняе цячэнне ракі Заходняй Дзвіны, а гэта адчыняла вольны доступ да Балтыйскага мора, дзякуючы чаму гарады Полаччыны разгортвалі буйны гандаль з краінамі і гарадамі, паложанымі на балтыйскім пабярэжжы. Уплыў Полацкага княства распаўсюджваўся і на суседнія беларускія землі. Яно становіцца заможным і сільным княствам. Самым буйным і багатым горадам у ім быў Полацк. Да ўлады ў ім прыходзіць гарадское веча — агульны сход гараджан. Вечам кіравалі заможныя гараджане. Яно абмяжоўвала княжэўскую ўладу, а часам пазбаўляла невыгодных князёў пасаду і запрашала іншых.

На поўдзень ад Полаччыны знаходзілася Тураўскае княства. Яно стала незалежным ад Кіева пазней, чым Полаччына. Па рацэ Прыпяці і яе прытоках ішлі шляхі з Тураўскага княства ў Полаччыну, Кіеў, на Валынь і ў Польшчу. Самымі буйнымі гарадамі ў ім былі Тураў і Пінск.

Землі радзімічаў уваходзілі ў склад суседняга Чарнігаўскага княства.

Дрыгавічы, якія жылі вакол гарадоў Берасця (Брэста), Драгічына, Бельска, Гродна і Свіслачы, часова ўваходзілі ў склад Валынскага княства.

Феадалы няспынна павялічвалі свае зямельныя ўладанні і пашыралі залежнасць сялян і жыхараў гарадоў. Сяляне вымушаны былі абрабляць землі феадала, працаваць пры іншых працах у яго маёнтках і даваць яму дань у натуры: жыта, авёс, лён, мёд і іншыя прадукты. Рамеснікі таксама былі залежнымі ад князёў і баяраў, на карысць іх мусілі працаваць і дастаўляць свае вырабы.

Рамеснікі беларускіх гарадоў славіліся вырабамі з розных металаў, упрыгожанняў з срэбра і золата. Купцы вялі бойкі гандаль не толькі з суседнімі гарадамі і княствамі, але і з адлеглымі замежнымі краінамі. Полацкія і віцебскія купцы развіваюць гандлёвыя зносіны з горадам Вісбі на востраве Готланд на Балтыйскім моры і гарадамі Паўночнай Нямеччыны.

Развіваецца мураванае будаўніцтва. Асаблівай велічынёй, прыгажосцю і багаццем вылучаліся царквы ў Полацку, Віцебску, Гродне і іншых гарадах. Гарадскія крэпасці ўмацоўваліся мурам і высокімі мураванымі вежамі. Асвета пашыралася не толькі ў асяроддзі княжэўскай знаці, духавенства і багатых людзей, але і пранікала ў шырокія слаі насельніцтва. Граматай часта карысталіся купцы, рамеснікі і сяляне. Пісалі ж цвёрдым рыльцам з металу на спецыяльных дошчачках, пакрытых воскам, на бярозавай кары (бяросце) і на пергаменце.

У Полацку была бібліятэка, у якой перахоўваліся і перапісваліся кнігі.

Вядомай пашыральніцай граматы і перапісчыцай кніг была Еўфрасінія — дачка князя полацкага. Яна заснавала каля Полацка жаночы манастыр, у якім манахіні займаліся перапіскай кніг і навучаннем дзяцей. Выдатным пісьменнікам і прапаведнікам быў Кірыл з Турава. Яго творы сведчаць аб высокай адукацыі і веданні грэчаскай мовы і візантыйскай літаратуры.

Найвыдатнейшым помнікам свецкай літаратуры, які напісаны невядомым аўтарам і належыць у роўнай меры ўсім усходнеславянскім народам, з'яўляецца «Слова аб палку Ігаравым». У ім расказваецца аб паходзе аднаго з князёў супраць качэўнікаў-полаўцаў і яго паражэнні. Аўтар заклікае ўсіх князёў усходняй Славяншчыны да спынення міжусобных войнаў, у часе якіх спальваюцца і разбураюцца сёлы і гарады, гінуць людзі, марнеюць і слабнуць усходнеславянскія землі. Гэты твор дасканалы па сваёй форме, прасякнуты глыбокім пачуццём любві аўтара да свае радзімы.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ.*

1. *Чаму Кіеўская Русь распалася на ўдзельныя княствы?*
2. *Якія княствы былі на беларускіх землях?*
3. *Раскажыце аб развіцці рамяства, будаўніцтва і культуры ў Беларусі.*
4. *Якіх вы ведаеце выдатных дзеячоў культуры з тае пары?*

# КУЛЬТУРНЫ АГЛЯД

### ТЭАТР ВЯНГЕРКІ Ў НОВЫМ СЕЗОНЕ

Маем новага дырэктара мастацкага: **Браніслаў Орліч.** Прыехаў з Валбжыха з калектывам 12 асоб, якія ў большасці выступілі ў новай пастаноўцы тэатра «Немцы» **Леана Кручкоўскага.** Рэжысіраваў Браніслаў Орліч. Ён таксама зайграў адну з галоўных роль у п'есе — прафесара Зонэнбруха — выдатнага нямецкага біёлага, які не любіць гітлераўскіх немцаў, але і не змагаецца з імі. А даведаўшыся, што вынікі яго навуковай працы стасуюць гітлераўцы ў канцлагерах для забівання людзей, паўтарае сваё сталае: «Я не хачу аб гэтым ведаць».

Л. Кручкоўскі ў «Немцах» задае пытанне: якімі былі немцы і чаму Гітлер мог перамагчы?

### ВАЯВОДСКІ ДОМ КУЛЬТУРЫ Ў АФЕНЗІВЕ

Аб гэтым сведчыць нарада, якую ВДК арганізаваў нядаўна і дзе прадставіў вельмі шырокі і талковы план сваёй працы. З пасіўнага спажывання культуры, як гаворым, маем перайсці на ствараньне культурных цэннасцей. Не толькі забаўляцца, а перад усім вучыцца. Ваяводскі Дом культуры займецца ўрэшце сістэматычнай рэестрацыяй розных цікавых людскіх талентаў з тэрэну, розных расказчыкаў, розных умельцаў.

# РАДНЫЯ І ІНТЭРПЕЛЯЦЫЯ

Давялося мне прасачыць шмат пратаколаў і бюлетэняў павятовых і грамадскіх рад нарадовых. Маю ўвагу звярнуў часта паўтараючыйся сказ: «Напярэдадні сесіі і між сесіямі інтэрпеляцыі не было». Шчыра прызнаўшыся, дык я ў ніводным дакуменце не бачыў, дзе б гаварылася, што інтэрпеляцыі былі. Журналісцкая цікавасць давяла да таго, што ўспамянутай справай задумаў пацікавіцца шырэй, адначасова задаючы сабе пытанне, ці гэта добра, што інтэрпеляцыі не было, ці не зусім.

Каб у пэўнай меры мець адказ магчыма найбольш арыгінальны, выбраў радных у Бельскім павеце, для якіх задаў па некалькі пытанняў, кладучы націск на паняцце «інтэрпеляцыя». Больш усяго маімі размоўцамі былі радныя-настаўнікі.

А. Ф. — настаўніца: — Раднаю першы раз. На сустрэчах з выбаршчыкамі не бывала. Адзін раз выслалі ў Цялушкі, але не была, бо не было чым даехаць. На сесіях мала бываю, бо то «студыя», то мацярынскі водпуск, дзеці.

— А інтэрпеляцыі Вы ўносілі?

— Нічога абсалютна я не ўносіла.

А. Х. селянін-солтыс: — Прапанавалі мне паехаць на сустрэчу ў Кожына, Пасынкі, але не паехаў, бо то і далёка і часу няма. Вядома, як на гаспадарцы. (Што такое інтэрпеляцыя не ведае). Што там з маіх прапаноў. Найістатнейшая справа нашай вёскі — гэта каб раздзяліць пашу, якая лічыцца ўсіхняй і таму незагаспадараванай. Але што з таго, «устава» з 29.VI.1963 г. не дазваляе. Або тут у нас трох каляністаў увяло электрычнае святло. За гэта заплацілі 46 тысяч зл. + за інсталяцыю, а ім фінансавы Аддзел у Бельску «дасунуў» па 4,5 тысяч зл. А за што? І што тут радны зробіць, хаця ж гэта яўная несправядлівасць. Скажам, на будову, як не маеш знаёмых, дык апрача цэменту нічога не атрымаеш.

М. О. — настаўнік: — Сустрэчы з выбарчыкамі адбыў у некалькіх мясцовасцях. Гаварылі на сходах аб агульнаграмадскіх справах. Пісаў да меліярацыйнага прадпрыемства, каб правялі рамонт броду на рэчцы, дзе мела прайсці будаваная грамадскім чынам дарога. Адказ прыйшоў праз год з абяцаннем, што выканаюць. Дагэтуль нічога не зрабілі. У справе злеўні малака — залатвілі справу. Была і такая справа, дзе аднаго з гаспадароў, які выканаў скуп, некалькі разоў клікалі, каб спраўдзіць квіт. Працаўніцы была звернута ўвага, каб больш так не рабіла. Была скарга на магазінера, што ашуквае гаспадароў. На пісьмовую інтэрвенцыю ў аддзел скупу першы раз ніякага адказу не далі, другі раз вытлумачылі, што праведзены кантроль не выказаў ніякіх хібаў. І ў хуткім часе звольнілі магазінера.

Р. А. — настаўніца: — Раднаю ПРН ужо трэцюю кадэнцыю. На кожнай сесіі нешта гавару, асабліва з галіны асветы. Пісьмовыя адказы з павятовай рады атрымоўваю. На маю інтэрвенцыю пачалі прывозіць на месца пачкі старушкам (з апекі). Але ў сябе на месцы не дам рады выстарацца аб пабудове прыбіральні, а тая, што ёсць, у кожную хвіліну можа заламацца. Хто там у гміне ці павеце бачыць цябе ўладаю? Хаця я так лёгка не паддаюся. У ГРН абсалютна нічога не можна зваяваць, нават як кіраўніку школы, не раднаму. Старалася падгаварыць да супольных намаганняў некаторых радных-гаспадароў, але тыя мне адкрыта сказалі: «Як мы пойдзем супроць войта, то ён нам збожжа ці мяса не здыме». А адзін з прэзэсаў, які поўнасцю са мною згаджаўся, сказаў: «Я за паняю галасаваць не буду, бо пані дыплому ніхто не адбярэ, а мяне хутка...» Мне здаецца, што людзі на пасадах выбару ў радах не павінны цэлы век быць, што якісь час хай мяняліся б і каб аб гэтым яны ведалі.

Толькі пасля правядзення такіх размоў і ім падобных я здаў сабе справу, што фактычна на пастаўленае пытанне чаму радныя не інтэрпелююць, адказу не атрымаў. Мала таго, у адной з добра працуючых ГРН мяне паінфармавалі: «Ад нас жадаюць справаздач з лікамі інтэрпеляцый, але шчыра кажучы, дык мы і самі не ведаем, што гэта такое». Але размовы мяне ўпэўнілі ў тым, што людзі пачалі многае разумець з народаўладства. Нягледзячы на тое, многаму яшчэ іх трэба вучыць. Што не ведаюць і не карыстаюцца інтэрпеляцыяй, гэта выключна віна мясцовых улад і арганізацый. Іменна падносіўся б аўтарытэт раднага, калі б кожны з працаўнікоў рады ведаў, што радны — гэта ўлада, а ён з'яўляецца толькі адміністратарам. З другога боку неабходна ліквідаваць справы, дзе «рука руку мые». Замест таго, каб людзі пісалі па Варшавах, неабходна стварыць атмасферу шчырага выказвання раднаму, пасланцу народа. А гэтыя людзі, хоць і ціхія, могуць сказаць многа карыснага.

**А. Карпюк**

# ВЫКОПКІ



**Капанне бульбы ў Бельскім павеце ў гэтым годзе ідзе спраўна. Большасць гаспадароў капае коннымі або, яшчэ лепш, трактарнымі капачкамі.**

**На здымку: капанне бульбы на полі З. Твароўскага з Беразніцы ў Бельскім павеце.**

**П. Зінкевіч**




Ва ўладальніка пахавальнага бюро О'Ніла ў Даласе зазваніў тэлефон.

«Гэта Клінт Хіл з сакрэтнай службы. Я хачу, каб вы даставілі труну сюды, у Парклендскі шпіталь. Вы мне патрэбны неадкладна».

«Не кладзіце трубку, не кладзіце трубку! — пракрычаў О'Ніл. — У нас ёсць тавар на любую цану».

«Прывязіце самы лепшы, які ў вас ёсць», — сказаў Клінт.

Забегшы ў пакой узораў, О'Ніл выбраў самую дарагую труну, мадэль «Брытанія» вытворчасці кампаніі «Элджын каскет компані», вагой 800 фунтаў, з двайнымі сценкамі, якая герметычна закрываецца, з цяжкай бронзы. Але ён не мог несці яе сам. Паспешна выбегшы на дарожку, што вядзе дадому, ён дачакаўся трох служачых, якія вярталіся пасля перапынку, і ўчацвярых яны паставілі масіўную труну, на самую лепшую пахавальную машыну — белы, як снег, «кадзілак» узору 1964 года з устаноўкай для кандыцыянавання паветра.

У гаражы для машын «Хуткай дапамогі» Парклендскага шпіталя О'Ніл і яго бухгалтар Рэй Глісан адчынілі заднія дзверцы «кадзілака». Агенты і карэспандэнты, акрэдытаваныя пры Белым доме, кінуліся на дапамогу: труну паставілі на адну з каталак і павезлі па доўгім калідоры. Ля шырокіх дзвярэй карэспандэнты адышлі назад. Агент Эндзі Берджэр падаў знак Кену О'Донелу, што яны прыбылі.

«Я хачу пагутарыць з вамі», — звярнуўся Кен да пані Кенедзі ўпаўголаса, знакам запрашаючы яе пайсці за ім па калідоры.

Яна пайшла за ім да дзвярэй, і тут Пэм Тэрнер убачыла, як яна, быццам кошка, учапілася ў ручку дзвярэй, каб праверыць ці адчынены яны. Пані Кенедзі правільна ўгадала, што будзе што яе не захочуць дапусціць. Але Кен абяцаў, што яна ўбачыць мужа да таго, як закрыюць труну, і яна вырашыла дабіцца, каб абяцанне было выканана. Хірург Кемп Кларк з'явіўся ля Кена. Яна звярнулася да яго.

«Калі ласка, можна мне зайсці?»

«Не, не», — прамармытаў ён.

«Няўжо вы думаеце, што выгляд труны можа ўсхваляваць мяне, доктар? Я бачыла, як мой муж паміраў, я трымала яго, параненага, сваімі рукамі. Я ўся ў яго крыві. Што можа быць горш за гэта?»

Кларк капітуляваў.

«Так, вядома, я ведаю», — сказаў ён, адыходзячы ў бок.

Яна ішла следам за О'Нілам. Яна працягвала думаць аб тым, што ёй пакласці ў труну прэзідэнта. Раптам яна ўспомніла пра заручальны пярсцёнак. Ніколі яшчэ нішто не мела для яе такога вялікага значэння. У адрозненне ад другога пярсцёнка, з ізумрудамі, ён быў гладкі. Фактычна гэта быў мужчынскі заручальны пярсцёнак. Прэзідэнт купіў яго паспешліва ў Ньюпарце перад самым вяселлем. Не было нават часу выгравіраваць на ім дату. Пазней яна аднесла яго да ювеліра, каб ён гэта зрабіў. Пярсцёнак — гэта якраз тое, што трэба, калі толькі ёй удасца зняць яго. Яна паспрабавала расшпіліць леву пальчатку, але не змагла справіцца з засцежкай.

Яны знаходзіліся ўжо ў аперацыйнай. Калі не лічыць паху лякарстваў і асляпляльнага штучнага святла наверсе, пакой моцна змяніўся. Ён быў чыста прыбраны і амаль пусты. Людзі, што таўпіліся ў ім паўгадзіны назад, разышліся. О'Ніл быў там, ён нахіліўся над бліскучай трунай. О'Донел стаяў у дзвярах. Сяржант даласкай паліцыі Боб Дагер услед за ёй увайшоў у пакой. Авалодаўшы сабой, яна працягнула яму руку. Ён зразумеў, знайшоў вобмацкам засцежку і зняў пальчатку.

Жаклін падышла да цела прэзідэнта і пяшчотна ўзяла яго руку. Затым, калі пярсцёнак быў надзеты, яна апусціла яго руку і апусціла вочы.

**«ГІСТОРЫЯ СА СВЯШЧЭННІКАМ»**

К гэтаму часу ірландская мафія, агенты і афіцэры сувязі ў хірургічным аддзяленні распрацавалі план. Яны цалкам ізалявалі Жаклін Кенедзі ад навакольных. Нікому з іх не падабалася гэта месца і ўсе меркавалі, што чакаць вынасу цела — лішняе перажыванне для яе. Але Жаклін не падзяляла гэтага пункту погляду.

«Вы можаце цяпер пайсці адсюль», — сказаў ёй адзін з іх.

«Я не крануся з месца, пакуль не выйду адсюль з Джэкам», — адказала яна.

Але яны лічылі, ва ўсякім выпадку, што яна збаўлена ад надакучлівых людзей. Толькі неверагодны выпадак мог рассунуць сцяну, якую яны ўзвялі вакол яе.

**(Працяг будзе)**

# Сапраўдны белы крук



«Белымі крукамі» называюць рэдка сустракаемыя кнігі. У зборах рукапісаў Акадэміі навук Азербайджана ёсць вельмі многа цэнных кніг, сапраўдных «белых крукаў». На здымку у цэнтры відаць кніга, якой 1100 год. У ёй ад рукі пісаныя па-куфіцку суны Карану, святой кнігі мусульман-сунітаў.

(а–ак)

# Самаход тарэадорам



Правілы іспанскай, партугальскай карыды вельмі кансерватыўныя і мала змяніліся на працягу стагоддзяў. Таму вялікае абурэнне сярод энтузіястаў традыцыі выклікала вось такая з'ява: змагаецца з раз'юшаным быком не тарэадор, а самаход, які імчыцца з вялікай хуткасцю.

Аказалася, што гэта не карыда, а прадуцэнты самахода такім спосабам рэкамендуюць моцнасць сваіх вырабаў.

(мф)

# Мікратэлескоп да фотаапарата



**Аўтар мікратэлескопа са сваёй прыладай.**

Маскоўскі мікрабіёлаг Барыс Маталаеў сканструяваў прыладу, якую можна назваць мікратэлескопам. Пры дапамозе звычайнага фотаапарата «Зеніт», «Старт» ці «Фед», а таксама кінакамеры і гэтага ж тэлескопа кожны можа выконваць здымкі аддаленых прадметаў на Зямлі і нябесных целаў, напр. Сонца, Месяца, зорак, штучных спутнікаў Зямлі, а таксама фатаграфаваць прадметы, якія нельга ўбачыць голым вокам.

(а-ка)




**ЗАЕЧАЕ ПАЛЯВАННЕ**

Віхор і Коля сядзелі на ўскраіне лесу. Світала. У лесе было ціха: так бывае восенню, пасля першых замаразкаў, калі зямля ўжо схоплена начнымі марозамі, а снегу яшчэ няма.

— Берг? — спытаў Віхор, кіўнуўшы галавою на чалавека ў капелюшы з пяром, які падымаўся па трапінцы ад дарогі, зараджаючы на хаду ружжо.

— Ён, — адказаў Коля.

Берг падышоў да іх і сказаў:

— Вы прасілі, каб я прыйшоў да вас сюды, у лес, адзін. Я прыйшоў. Добры дзень.

— Добры дзень.

Некалькі хвілін яны стаялі, разглядваючы адзін другога, а потым Берг спытаў:

— Што, здаць зброю?

— Гэта паспееца, — сказаў Віхор, — ідзем пакуль у лес — па зайцу.

— Яшчэ не чарнатроп, — адказаў Берг, — палявання не будзе. Тым больш без сабакі. І ўсё-такі я «за». Ідзем.

І яны пашлі ў лес — Віхор і Берг спераду, а замыкаючым Коля. Ён пастаяў мінут пяць на ўзлеску, схаваўшыся за дрэва: ці няма сочкі.

«Калі ён прыйшоў са сваімі, тады яны павінны цяпер выйсці, — думаў Коля, паглядаючы на гадзіннік. — Яны павінны разумець, што ў лесе нас выпусцяць. Відаць, ён адзін.

Коля быстра пайшоў следам за Віхрам.

Берг сказаў:

— Я некалькі разоў паляваў на зайцаў. У Германіі гэтае паляванне багацейшае.

— Вы здорава гаворыце па-руску.

— Я закончыў Маскоўскі ўніверсітэт, так што нічога ў гэтым няма дзіўнага. Можаце перадаць сваім, што я працаваў з трыццаць трэцяга па трыццаць пяты год у Маскве, у ваенным аташаце, пад прозвішчам Шмальшлегер. Запішыце, гэта труднае прозвішча.

— Нічога. Я запамятаю. Калі я чую такія доўгія прозвішчы, я ўспамінаю Марка Твена.

— Чаму ж гэта?

— Ён пісаў, што некаторыя нямецкія словы, калі глядзець на іх прыжмурыўшыся, робяцца падобнымі на выцягнутую рэйку.

— Гэта забаўна.

Яны спыніліся, пачуўшы ззаду трэск ламачча. З гушчару выходзіў Коля.

Берг спытаў:

— Глядзелі, ці не прывёў я з сабою хваста?

— Не, — адказаў Коля.

— Не трэба ашукваць агента, — сказаў Берг, уздыхнуўшы. — У задуманай вамі гульні вы можаце рыхтаваць для яго любую ролю, але толькі ніколі не ашуквайце. Я спадзяюся, што дурных агентаў вы сабе не вярбуеце, а разумны адразу зразумее.

— Вам патрэбны заяц для алібі? — спытаў Віхор.

— Гэта ўсё роўна. Заяц — даволі адноснае алібі, таму што мёртвы, а нават калі б быў і жывы, усё роўна змаўчыць.

— Ясна, — сказаў Віхор і палез за сігарэтамі, — значыць, нам можна, як гаворыцца, браць быка за рогі.

— Толькі спачатку давайце абгаворым умовы для быка, — сказаў Берг, і Коля прыкмеціў, як збялеў яго твар.

— Высоўвайце, — сказаў Віхор, — мы гатовы вас слухаць.

— Як вы самі разумееце, грошай мне не трэба. Мне трэба толькі адно: мне патрэбна важная гарантыя, што пасля заканчэння вайны я застануся жыць у сваім доме са сваёй сям'ёй. Больш мне нічога не трэба.

— Значыць, вас цікавіць адно — захаванне вашага жыцця?

— Можна падумаць, што ваша жыццё вас не цікавіць.

— Гэта складанае пытанне, — адказаў Віхор.

— Як бы складаным гэтае пытанне не было, усё роўна не варта сябе ашукоўваць.

— Мы гарантуем вам жыццё і свабоду, — сказаў Віхор.

— Стоп. Гэта не размова. Я не ведаю. хто вы, мне не вядомы вашы паўнамоцтвы.

— Добра, — сказаў Віхор і памалу пайшоў далей, праз ціхі бярозавы гай, — добра. Вы па-свойму маеце рацыю. Нам трэба, каб вы перадалі нам план умацавання одэрска-віслэнскага плацдарма. Калі вы не можаце дастаць гэты план, дапаможыце нам дастаць каго-небудзь з вышэйшых эсэсаўскіх афіцэраў, якія займаюцца інжынернай справай.

— Краўха, напрыклад, — сказаў Коля. — Гавораць, ён шмат ездзіць па лініі абароны.

— Краўх займаецца іншымі пытаннямі.

— Ну, бог з ім, з Краўхам. Нас цікавіць абаронны вал.

— Абаронным валам цікавіцца, як правіла, тактычная разведка, ці не так?

— Ды як сказаць?.. — адказаў Коля.

— Ясна. Вы па прафесіі не разведчык. Праўдзівей, вы сталі разведчыкам толькі на вайне. Вам раней не даводзілася працаваць з іншаземнай агентурай. Словам, вам трэба яшчэ адзін доказ маёй адданасці. Гэтым доказам можа служыць план абароннага вала. Пасля адпаведнай праверкі вы звяжаце мяне з Цэнтрам. Пакуль, відаць, вам не вераць.

Віхор прамаўчаў.

— Відаць, найбольш надзейным будзе такі план: я ўкараняю вашага чалавека да сябе — у агентуру армейскай разведкі групы армій «А». Больш таго, я гатоў узяць гэтага вашага чалавека ў свой аўтамабіль і правезці яго па ўсім абаронным вале. Такое вырашэнне праблемы вас задавальняе?

— Гэта — цікавая прапанова, — памалу адказаў Віхор. — Перспектыўная прапанова. У вас ёсць з сабою картачка жонкі або дзяцей?

— Мы ж сентыментальная нацыя. Зразумела, ёсць.

— Пакажыце.

Берг дастаў з кішэні пачку лістаў.

— Дайце ўсе, — папрасіў Віхор.

# ТРЫБУНА чытачоў

## БУДЗЕ ШКОЛА І КЛУБ

У Чэхах Арлянскіх (Гайнаўшчына) будуецца новая школа. Пачнуць у ёй вучыцца ў наступным навучальным годзе. Пакуль што дзеці вучацца ў старым памяшканні. У гэтым старым школьным будынку зроблены капітальны рамонт з той мэтай, што ў будучыні будзе тут клуб. І так, незадоўга школьнікі пяройдуць у новае памяшканне, а ў старым будзе культурны цэнтр вёскі.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя




Дарагое Сэрцайка!

Жыву я на вёсцы і маю 22 гады. Пазнаёміўся з дзяўчынай з суседняй вёскі. Яна мне вельмі падабаецца, але я не пераконаны, ці ёй падабаюся. А не ведаю, як запытаць ці яна мяне кахае. Колькі разоў я сустракаўся з Н. яна заўсёды прыгожа са мной абыходзілася. Аднойчы я заехаў да Н. са сваім сябрам. Зайшлі мы дахаты да Н. Яна не хацела са мной гаварыць, адварочвалася ад мяне. І больш я з Н. не сустракаўся. Я думаю ўсё аб ёй і перажываю. Не ведаю, што рабіць, што сказаць Н., калі выпадкова яе сустрэну.

Парай, Сэрцайка, як пагаварыць з Н., як даведацца, ці яна мяне кахае.

Валодзя з Гайнаўшчыны

Дарагі Валодзя!

Пытаеш мяне, як запытаць у Н., ці цябе кахае? Аб гэтым не трэба пытаць, гэта і так відавочнае ў размове, у паступках. Каханне нялёгка скрыць. Таму раю табе замест пытаць, добра прыглядзецца Н. у яе адносінах да цябе. Я проста табе раю паехаць, як перад тым бывала, да Н. і захоўвацца так, як бы нічога і не здарылася. Бо тое, што тады Н. кепска абыходзілася з табой, не можа сведчыць, што ты Н. не падабаешся. Мо мела яна іншую прычыну дрэннага настрою і ў той момант падвінуўся акурат ты. Мо была незадаволена, што ты прыехаў са сваім сябрам. Прычын можа быць вельмі многа.

Таму замест таго, каб ламаць галаву сабе, перажываць, ты паедзь да Н. і сам пераканаешся ў яе адносінах да цябе.

Жадаю поспехаў.
Сэрцайка

---

Берг сказаў:

— Я разумею. Вазьміце адзін — з адваротным адрасам. І адно фота. Там жонка і дзеці. Рэшту ўсё-такі пакіньце мне.

Віхор узяў ліст з адваротным адрасам, выбраў фатаграфію, схаваў усё гэта ў кішэню і сказаў:

— Вось так. А на ўкараненне да вас пойдзе мой сябар.

Берг паглядзеў на Колю, кіўнуў яму галавою, потым перавёў вочы на Віхра і раптам з яго памяці выплыў слоўны партрэт таго рускага разведчыка, якога чакаў Муха і які потым быў схоплены гестапа і ўцёк ад іх.

Палкоўнік падумаў: «Калі я аддам яго шэфу гестапа, мяне зробяць ледзь не героем нацыі».

— Вызначайце месца новай сустрэчы, — запрапанаваў Берг, і Коля адчуў, як у голасе палкоўніка нешта зламалася.

Віхор паглядзеў на Колю, потым на Берга і сказаў:

— Гэты хлапец, — і ён палажыў руку на Коліна плячо, — **мне як брат.** Ясна?

— Ясна.

— Калі з яго галавы ўпадзе хоць адзін волас, я абяцаю вам шмат няшчасцяў.

— Добра, — сказаў Берг, — не варта нам адзін другога страшыць, і так даволі страшна жыць у гэтым свеце. Заўтра раніцай я чакаю. Спадзяюся, мой адрас вам гаварыць не варта?

— Не варта, — сказаў Коля.

— Да пабачэння, — сказаў Берг.

— Да сустрэчы.

**(Працяг будзе)**

## ГАЙНАЎКА МАЛАДЗЕЕ



Жыллёвыя будынкі.




Спажывецкія павільёны.




Новаадкрыты бар.
Здымкі Янкі Цялушэцкага

## ДАХОДЫ ЗА МАЛАКО

Пабольшваюцца даходы нашых гаспадароў за малако з года ў год. Да гэтага прычыняецца не толькі большая колькасць кароў, але і лепшая іх якасць. Каровы ў сваю чаргу даюць больш малака таму, што атрымоўваюць лепшы корм, а з другога боку дабіраецца лепшую, больш малочную пароду кароў.

Паводле падлікаў, у раёне заблудаўскай малачарскай спулдзельні выплачана ў 1966 годзе за малако 16.249.000 зл., а ў 1965 годзе — толькі 13.239.000 зл. Іменна ў Заблудаўскім раёне найбольшы даход на адну карову выносіць ён 2.844 зл., а ў 1965 — толькі 1.976 зл. Для лепшай арыентацыі падаем даходы на 1 карову ў іншых раёнах спулдзельні. І так найвялікшы — 3.597 зл. у Банях Мазурскіх, Бельск — 2.413 зл., Гайнаўка — 2.159 зл., Міхалова — 2.384 зл., Сямяцічы — 1.831 зл., Саколка — 1.189 зл. У сярэднім у Беластоцкім ваяводстве 1 карова за малако прыносіць 1.989 зл. даходу. (ак)

## СЁЛЕТНІЯ СПАДЗЯВАННІ

Сярэднія ўраджаі чатырох падставовых збожжавых культур — жыта, пшаніцы, аўса, ячменю — у 1962—65 гадах на тэрыторыі нашага ваяводства не перавышалі 13,4 цэнтнераў з аднаго гектара. У мінулым, 1966 годзе, які быў ураджайным годам у нашай сельскай гаспадарцы, сярэднія ўраджаі дасягнулі пятнаццаці з паловай цэнтнераў з аднаго гектара.

У бягучым годзе рост ураджайнасці нязначны, а ва ўсходніх і паўночнаўсходніх паветах меншы. (ся)

## ВЕСТКІ З КРЫВЯЦІЧ

У летнія месяцы ў Крывяцічах (Бельскі павет) існавала прадшколле. Вялікую прыслугу дало яно жыхарам вёскі Крывяцічы і Мора. У жніво, калі было шмат работы і не было з кім аставіць малых дзяцей, бацькі не мелі клопатаў. Дзеці былі пад добрай апекай, весела гулялі і не прыносілі лішніх клопатаў бацькам.

✲

Сяляне нашай вёскі скасілі і звезлі ўжо атаву. Канчаецца таксама сеў жыта. Многія капаюць ужо бульбу. Закончылася ўжо ў вёсцы кантрактацыя. Сяляне зараз найбольш кантрактуюць буракі, лён, жыта і бульбу. Кантрактатары закупілі ўжо мінеральныя ўгнаенні. Як вядома, цэны на іх зніжаны толькі для гаспадароў, якія займаюцца кантрактацыяй збожжавых культур.

✲

З кожным годам у Крывяцічах штораз больш цагляных дамоў. Цяпер ніхто не будуе хаты з дрэва, а крыццё саломаю перайшло да гісторыі. Усё будуецца з цэглы і пустакаў. У вёсцы ёсць нават вялікая крама, малачарня і святліца. Існуюць таксама маладзёжныя арганізацыі: БГКТ, СВМ, ЛьЗС. Добра працуе сельскагаспадарчы гурток.

**Янка Кірыдзюк**
Крывяцічы

## ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ НАШЫХ ВЁСАК

На пачатку трэба сказаць, што Гайнаўскі павет амаль поўнасцю ўжо электрыфікаваны. У канцы г.г. адбудуцца электрыфікацыйныя працы на хутарах каля вёскі Курашава. Тэмп электрыфікацыі Беласточчыны сёлета нязначна паменшаў — з тым, што звернута значную ўвагу на менш развітыя паветы, дзе нізкі працэнт электрыфікаваных вёсак.

У гэту восень будуць праведзены даволі вялікія электрыфікацыйныя работы ў Сакольскім павеце — да канца бягучага года прадбачана электрыфікаваць тут каля дваццаці вёсак. Работы пачнуцца больш-менш праз месяц. У наступным годзе прадбачаны вялікія электрыфікацыйныя работы ў Беластоцкім павеце, у 1969 і 70 г.г. — у Сямяціцкім павеце, а ў Бельскім павеце — ў 1970 годзе.

Пад канец бягучага года толькі штопятая вёска на Сакольшчыне застанецца без святла — маюцца на ўвазе, перад усім, малыя вёскі, дзе слабая сельская гаспадарка. (ся)

## БАЛАГАН

У Гайнаўцы ёсць прыпынак ПКС і кожны раз у 12 гадзін дня стаіць там 5, а то і больш ПКС-аў, якія едуць у розныя месцы. Яны не маюць свайго пастаяннага месца стаянкі і няма вывешанай таблічкі, куды ён едзе. Людзі ходзяць чарадой і не знаюць, якім ПКС-ам яны будуць ехаць. Гэта ўжо вельмі добра, калі шафёр скажа, куды гэты ПКС едзе, а то папросту смяюцца і кажуць, што едзе ў свет і яшчэ інакш.

І калі ўжо вывесяць таблічку, куды ён едзе на некалькі мінут перад ад'ездам, тады ўжо рух нязносны. Людзі пхаюцца адзін перад другім. У гурбе такой адрываюцца гузікі і чуваць праклёны. А каб была каля кожнага аўтобуса таблічка, кожны знаў бы, якім аўтобусам паедзе, заняў бы чаргу, спакойна чакаў бы і не было б такой мітусні.

**Крапіўка**
з-пад Нараўкі

## СЕЛЬГАСГУРТОК У ТРЫВЕЖЫ

Сельскагаспадарчы гурток у Трывежы існуе пяць гадоў. Як заявіў дыспазітар Павел Лебядзінскі, трывежанцы маюць чатыры трактары з камплектамі сельскагаспадарчых машын і адзін агрэгат. У 1966 годзе гурток меў 41.900 зл. чыстага даходу. У гэтым годзе гуртковцы спадзяюцца два разы большага даходу. Найлепшым трактарыстам з'яўляецца Мікалай Давідзюк с. Івана, які ў месяцы жніўні выпрацаваў 182 гадзіны.

Трывежскі сельскагаспадарчы гурток займае перадавое месца ў ГРН Ласінка.

**М. Тэлешэўскі**
Рэпіска

## ПРАЦАВІТЫЯ КАНІКУЛЫ

Марыся Паляноўская з вёскі Пасынкі (Бельскі павет) з'яўляецца вучаніцай гастранамічнага тэхнікума ў Беластоку. Канікулы правяла вельмі працавіта. Памагала яна свайму бацьку пры вырабе даховак. Сама выпрадукавала іх 5 000. Штодзённа вырабляла яна каля 300 даховак.

Тэкст і фота: **П. Зінкевіч**
Бельск



Марыся Паляноўская пры прадукцыі даховак.

# КІНО

**ПРАГРАМА на 3—8.X.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

,,Siedem nianiek'' (radz.) 3 — 4. ,,Biedni bogacze'' (węgierski), 5 — 6. ,,Jutro Meksyk'' (polski), 7 — 8.

**Кляшчэлі**

,,Białe pustkowie'' (radz.), 3 — 4. ,,Rok przestępny'' (USA), 5 — 6. ,,Zejście do piekła'' (polski), 7 — 8.

**Дубіны**

,,Miejsce dla jednego'' (polski), ,,Kochajmy syrenki'' (polski), 4 — 8.

**Нараўка**

,,Szkoła grzeszników'' (czeski), ,,Wzgórze'' (angl.), 4 — 8.

**Нарва**

,,Gdzie jest trzeci król'' (polski), ,,Tomasz oszust'' (franc.), 4 — 8.

**Чыжы**

,,Ściana czarownic'' (polski), ,,Skrytobójcy'' (NRD), 4 — 8.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Sposób bycia'' (polski), ,,Przygody Wernera Holta'' (NRD) 4 — 8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Obrońca z urzędu'' (angl.), ,,Tak blisko nieba'' (czeski), 4 — 8.

**Орля**

,,Don Gabriel'' (polski), ,,Trzy życzenia'' (rumuński), 4 — 8.

**Райск**

,,Troje i las'' (polski), ,,Anioł błogosławionej śmierci'' (czeski), 4 — 8.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Wojenko, wojenko'' (rumuński), ,,Subrina'' (radz.), 3 — 6.

**Міхалова**

,,Grymasy'' (węgierski), 3 — 4. ,,Sygnały'' (polski), 5 — 6. ,,Matczyne serce'' (radz.), 7 — 8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Powiernik pań'' (franc.), 3 — 4. ,,Pociąg pod specjalnym nadzorem'' (czeski), 5 — 6. ,,Zejście do piekła'' (polski), 7 — 8.

**Шудзялава**

,,Pierwszy dzień wolności'' (polski), ,,Trzy światy Guliwera'' (angielski), 4 — 8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Lenin w Polsce'' (polski), ,,Pałace w płomieniach'' (rumuński), 4 — 8.

**Новы Двор**

,,Grek Zorba'' (USA), ,,Chudy i inni'' (polski), 7 — 8.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa. Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP: Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3.

# Каробка і сеўнік

Як то кажуць людзі, цяпер у вёсцы колка — гэта вясёлка. Калі добра круціцца, дык ніхто не смуціцца. А калі дрэнна, то аж гаварыць непрыемна...

— О гэта, хлопчыкі, культурная праўда, бо там дзе колка яшчэ не маюць, там людзі гаруюць і наракаюць...

— Бач як харашэнька ты спяваеш. Яшчэ лепшы ў цябе галасок, як у нашага псаломшчыка...

— Пэўна яго жонка сырымі яйкамі корміць?...

— Лепшы голас маю, бо як прышлі машыны да вёскі, дык і праца лягчэйшая стала. А так чалавек тыраў і не мог адцягнуць нават голасу...

— Значыць, культурна адпачыў?

— Цяпер нават маю час прысесці і газету пачытаць.

— А ў мінулую восень, здаецца, яшчэ ты ж сам насіў каробку на плячах і раскідаў па полі жменямі жыта?!

— Раскідаў жменяй, жменямі расло і збіраў жменямі. Але гэта ўжо было даўно. А цяпер у нас аруць трактарамі і кожны сее сеўнікам, аж міла паглядзець...

— А што з коньмі?

— Цешацца! І ходзяць па культурных травах, бы тыя дачнікі...

— А ты чаго, Ігнат, скрывіўся?

— Мне ўжо ад каробкі плечы адбірае! Думаю ісці да дохтара...

— А што ў вас няма яшчэ колка?

— Ёсць, то яно ёсць, але трактары нашыя на дачы. Стаяць сярод вёскі, а людзям пот вочы залівае!...

— А што прэзас?

— Прэзас не мае часу: пчоламі займаецца.

— Вось табе і колка: адзін заціпае мёд, а другому трэскае ад работы жывот!

— А то ж але, хлопчыкі, як той казаў — хоць ты бабу запрагай у сеўнік!...

— А чаму не? Каб мая Каця была такая, як твая Дуня?

— О, бо мая Дуня на кулкавым хлябку так упаслася...

— А я думаю, што ты сваю Дуняшу падкормліваеш конскім зубам!...

Мужчыны дружна захіхікалі. З-за вазоў высунулася, усміхаючыся, Петрусёва Дуня...

— Пабач, Пятрусь, якую я табе прыгожую новенькую каробку купіла?

Пятрусь зачырванеўся, а Міхась зараз падхапіў:

— Вось як хваліў сеўніка, а сам з каробачкі карыстае!

Пятрусь якосьці вельмі дзіўна глянуў на Дуню і запытаў:

— Але навошта яна табе, га, Дунечка?!

— Ат, на ўсякі выпадак купіла. Як не будзе яшчэ патрэбна табе, Пеця, то я вясною буду мець дзе пасадзіць квактуху...

**Цётка Мальвіна**

# НІЎКА

### У МЭБЛЕВАЙ КРАМЕ

Тыдзень таму назад я купіў у вас крэсла, а сёння яно развалілася на часткі.

— Відавочна, хтосьці сеў на яго.

### НЕДАКЛАДНАСЦЬ

Калі вы зважылі таксама свой палец, завініце яго разам з селядцамі.

### ДОБРАЯ ПАРАДА

Хлопчык прыціснуў дзвярыма палец і заверашчаў ад болю. Маці хацела завязаць палец, але дзядзька, які там быў, параіў:

— Вазьмі хлопчык палец у рот.

— Хіба гэта памагае? — пытае маці.

— Ад крыку многа памагае, — кажа дзядзька.

### ХТО КАГО ЛЮБІЦЬ

— Ты бабулю любіш?
— Люблю.
— А дзядулю?
— Дзядуля сам сябе любіць.

### ПРАРОКІ І ЎРОКІ

Бюро надвор'я людзям
Прарочыць ясны дзень.
Ты вер, што так і будзе,
А дажджавік адзень.



### ЗЛАВІ — ТАДЫ І СКУБІ

Не дужа смейся з рыбака,
Не верачы хвальку,
Сам не скубі цецерука,
Пакуль ён на таку.

### ДВОЙЧЫ

Рэгістратар пытае ў жанчыны:
— Незамужняя?
— Так, двойчы.

## Смяецца з намі

**Вочы цалкам прыгодныя і для таго, каб многага не заўважаць.**

### Пасля пабыўкі ў цырку



— Алле, бацька! Давай, скачы хутчэй, не гультайнічай!



**— Ну, што вы, даражэнькія! Я прышоў прасіць, каб выдалі за мяне сваю дачку.**

# ПЫТАННЕ

На пасяджэнні адной не вельмі высокай установы ішло абмеркаванне кандыдатуры на пасаду вартаўніка збожжа-нарыхтоўчай базы. Першы з прапановай выступіў Старшыня.

— Таварышы, — сказаў ён. — Ёсць думка назначыць на гэтую пасаду Ката. Думаю з работаю ён справіцца. Ва ўсялякім разе, вопыт барацьбы з мышамі ў яго ёсць, здароўе таксама...

Кот уласнай персонай прысутнічаў на пасяджэнні і соладка ўсміхаўся ў свае белыя памаўзаныя вусы.

Кандыдатуру Ката на пасаду вартаўніка базы пад-



трымалі ўсе. Нават... Мыш. Яна ўзяла слова і не паскупілася на пахвалу Кату. Выхваляла ён і непрымірымы, і прынцыповы, і ініцыятыўны, і... Але, падтрымліваючы кандыдатуру Ката на пасаду вартаўніка базы, Мыш, вядома, пярэдне некалькі разоў перапрасіўшы, спыталася дазволу задаць Кату адно вельмі дробязнае пытанейка — а менавіта, ці гэта не ён, Кот, спаліў збожжа - нарыхтоўчую базу ў суседнім раёне, за што і трапіў у свой час на лаву падсудных.

Кот ніколі не жыў у суседнім раёне. Ён заўсёды жыў тут, на вачах у тых, хто сядзеў на пасяджэнні. Больш таго, ён ніколі не займаў пасады вартаўніка базы і — гэта таксама ве-



далі ўсе — ніколі не трапляў на лаву падсудных.

Але пытанне ёсць пытанне, на яго, якое б яно ні было, трэба даваць адказ. І Старшыня паднаў Ката, папрасіў яго выступіць і адказаць на мышынае пытанне. Кату не было чаго адказваць, ён разгубіўся і доўга не мог вымавіць слова. І гэта насцярожыла ўсіх, хто быў на пасяджэнні — а раптам і праўда Кот спаліў базу ў суседнім раёне? Ну не гэты, дык іншы... Ручайся тады за Ката...

Пасля паўторнага абмеркавання на пасаду вартаўніка збожжа-нарыхтоўчай базы быў назначаны... Слон. Пытанняў да Слана ні ў каго не было. Нават у Мышы. Прайшоў аднагалосна. Ката ж пакінулі зусім без пасады на час, пакуль камісія, якую абралі тут жа на пасяджэнні, не праверыць, гэты Кот ці нейкі іншы спаліў збожжа-нарыхтоўчую базу ў суседнім раёне...

**Барыс Сачанка**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Раісы Р. са станцыі Валілы, Беластоцкага павета, і Ніны, Васі, Крысі і Марысі з Бельскага павета змяшчаем польскую песню п.з.

## „ZAKOCHANI"

I

Nic nas doprawdy nie dzieli,
nie ma się z czego tłumaczyć
nic nie musimy przebaczyć,
ja tobie ani ty mnie.
Nic nas doprawdy nie dzieli,
nawet tęsknota, bo za czym?
Ciebie mi los mój wyznaczył,
a tobie wyznaczył mnie.
Zakochani, bez pamięci, jak my zakochani,
tak tym szczęściem bez miary pijani,
nie do wiary po prostu, że można się kochać aż tak.
Zakochani, choćby przyszło im wszystko utracić,
jeszcze zawsze miłością bogaci,
nie do wiary po prostu, że można się kochać aż tak.
Nasza miłość, powiedz, no powiedz ty sam,
ta nasza miłość może przyśniła się nam?
Zakochani, bez pamięci, jak my, zakochani
tak tym szczęściem bez miary pijani,
nie do wiary po prostu, że można się kochać aż tak.

II

Czasem się nie wie, dlaczego
coś tam niechcący się rzekło
raj nasz przemienia się w piekło,
ja winię ciebie, ty mnie.
Na coś nie bardzo miłego
zbyt się poważnie zanosi
Ktoś będzie musiał przeprosić,
ja ciebie, albo ty mnie.
Pojednani, powracamy, jak burzą znękani
jak po burzy, do cichej przystani,
nie do wiary po prostu, że można się kochać aż tak.
Pojednani, choćby przyszło nam wszystko utracić
jeszcze zawsze miłością bogaci
nie do wiary po prostu, że można się kochać aż tak.
Nasza miłość, powiedz, no powiedz ty sam. itd.

